



№ 21 (182)

**Чэрвень 2007 года**

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года





Фота Ігара ГРЭЧКІ

## Вечна малады і геніяльны

25 мая ў Мінску, каля опернага тэатра ці, лепш сказаць, на плошчы імя... Парыжскай камуны (!), а 12 гадзіне сабралася нямала люду. Сюды прыйшлі пісьменнікі, мастакі, музейныя супрацоўнікі, журналісты, настаўнікі і вучні, іншыя прыхільнікі Максіма Багдановіча, каб зноў схіліць галаву, пакласці кветкі да яго помніка: у гэты дзень споўнілася 90 гадоў з дня смерці любімага паэта.

Кароткае грунтоўнае слова пра класіка сказала дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Т. Шэляговіч, падкрэсліўшы смутак з яго смерці ў зусім маладым узросце і заадно радасць у сувязі з тым, што маладым чалавекам было створана шмат геніяльнага ў жанры паэзіі, выдатнага ў прозе, публіцыстыцы і перакладчыцкай справе. У асобе Максіма Багдановіча паэт Анатоль Вярцінскі падкрэсліў неўміручасць яго вершаў і паэм, іх папулярнасць ва Украіне; пісьменнік Генрых Далідовіч – хуткаснае фармаванне яго як паэта глыбока нацыянальнага і высокамастацкага; мастакі Уладзімір Басалыга і Эдуард Агуновіч – шырокі чалавечы, эстэтычна-філасофскі і мастакоўскі светапогляд, чым Максім Багдановіч быў, ёсць і будзе цікавы чытачам самых розных захапленняў. Прачула гучала літаратурная кампазіцыя ў выкананні сяброў вучнёўскага патрыятычнага клуба «Спадчына» з вёскі Дварэц Дзятлаўскага раёна.

Пасля адбыліся памінальная служба ў Свята-Петра-Паўлаўскім саборы, прэзентацыя выстаўкі «Але ўспомніць яшчэ зорку свет, бо ў сэрцах гарыць яе след...» і літаратурна-музычная імпрэза «Застаўся ты ў нашых сэрцах...» з удзелам вядомых беларускіх пісьменнікаў і народнага тэатра «Жывое слова».

***Ул. інф.***



Фота Віктара КАВАЛЁВА

## У вянок любові, пашаны, памяці

Як паведамляла «КГ» раней, у Маладзечне прайшла навукова-практычная канферэнцыя «Слядамі Купалы», прысвечаная 125-годдзю з дня нараджэння славутага творцы. Атрымалася яна даволі маштабная, змястоўная, ідэальна арганізаваная. Своечасова былі вызначаны выступоўцы, тэмы іх дакладаў, сабраны і выдадзены матэрыялы канферэнцыі.

Гасцёўняй выбітнай падзеі аказалася Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка імя М. Багдановіча, дзе дырэктарам працуе Валянціна Страх. Усё тут спрыяла паспяховаму ходу канферэнцыі: прасторная і светлая зала, а галоўнае – інтэлігентная публіка і, вядома ж, дасведчаныя выступоўцы – навукоўцы, пісьменнікі, мастакі, краязнаўцы, выкладчыкі, музейцы.


*(Заканчэнне на стар. 2)*


## У нумары:



## На тым тыдні...

● Да 1145-годдзя Полацка народныя майстрыхі на чале з Нінай Ярмух, кіраўніком клуба «Рошва» пры Полацкім гарадскім Доме рамёстваў, сшылі абярэг плошчай больш за 70 кв.м.

Палотнішча стваралася на працягу некалькіх месяцаў з больш чым 300 вышытых, сатканых, распісаных шматкоў, кожны з якіх быў памерам каля 45х45 см. Часткі абярэга дасылаліся не толькі з Беларусі, але і з Даніі, Германіі, Расіі, Балгарыі, Аргенціны, Латвіі, Малдовы, Эстоніі. Амаль кожны шматок – сапраўдны твор мастацтва. Напрыклад, адзін з іх выкананы з 1 145 камянёў, якія ствараюць малюнак з 229 кветак, у кожнай па 5 пялёсткаў. Цяпер з'явілася складаная задача – размясціць палотнішча, даўжыня якога больш за 25 метраў. Пасля юбілейных мерапрыемстваў абярэг, які будзе падараваны старажытнаму гораду ў дзень яго нараджэння 2 чэрвеня, плануецца захоўваць у выставачнай зале Дома рамёстваў.

● У канферэнц-зале Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (будынак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі) адбылася прэзентацыя кніг, выдадзеных да 80-годдзя архіва:

1. Напярэдадні. Заходняя асобая ваенная акруга (канец 1939 г. – 1941 г.).
2. Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. 1918–1941 гг. Фонд 4 п. Вопіс 1.
3. Наша гісторыя. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. 1927–2007.

У мерапрыемстве прынялі ўдзел дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь В.І. Адамушка, першы намеснік кіраўніка Федэральнага архіўнага агенцтва Расіі А.Н. Арцізаў, дырэктар Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі С.В. Мiраненка, намеснік дырэктара Расійскага дзяржаўнага ваеннага архіва В.Л. Варанцоў, намеснік дырэктара Інстытута імя Людвіга Больцмана па даследаванні вынікаў войн Х. Кнолль (Грац, Аўстрыя), супрацоўнікі Нацыянальнага архіва Беларусі.

## Дружа падпісчык, аўтар, чытач!

**Мы па-чалавечаму радыя, што Вы, маючы шчырае і патрыятычнае сэрца, падтрымліваеце «Краязнаўчую газету». Падпіскай, матэрыяламі, цёплым словам, парадамі. Мы былі расчуленыя, калі летась напрыканцы года нашу трывогу наконт далейшага лёсу выдання шчыра падзялялі многія прыхільнікі: некаторыя з іх нават даслалі на рахунак ГА «Беларускі фонд культуры» (№ 3015213300014 у філіяле «МГД» ОАО «Белінвестбанка», код 764 (на «Краязнаўчую газету»)) сродкі са свайго сціплага заробку на падтрымку. Праўда, былі і асобныя паняверцы: а ці варта падпісвацца на «КГ», калі яна можа запыніць існаванне?**

**Як бачыце, у сёлетнім І-ым паўгоддзі мы ўстоялі! Дзякуючы і нашым стойкім сябрам! І цяпер давайце, калі ласка, разам дбаць і далей пра патрэбную справу. Адпаведна, мусім звярнуцца і да Вас, самыя стойкія: сябры, мы рабілі ўсе высілкі, каб з першага нумара «КГ» (2003) утрымліваць кошт аднаго нумара, ведаючы, што наш сябра багаты розумам і душой, але не зусім на кашалёк. Цяпер жа мусім (інача не ўстояць) з ІІ-га паўгоддзя 2007 года падвысіць цану. У межах самага-самага неабходна жыццёвага.**

***Новы кошт індывідуальнай падпіскі на «КГ» наступны: 1 мес. – 4 390 руб., на 3 мес. – 13 170 руб., на 6 мес. – 26 340 руб. Кошт ведамаснай падпіскі: на 1 мес. – 4 534 руб., на 3 мес. – 13 602 руб., на 6 мес. – 27 204 руб.***

**Як бачым, павышэнне кошту не вельмі вялікае. Устоім? Нават пабольшым наклад «КГ»?**

***Загадзя вялікі дзякуй!***

***ГА «Беларускі фонд культуры»***
***«Краязнаўчая газета»***



# «З дарог памяці»

***Пад такой назвай у выдавецтве «Кнігазбор» выйшаў з друку чарговы зборнік прозы і вершаў Аркадзя Нафрановіча (Мінск, 2007), які заслугоўвае пільнай увагі чытачоў. Пісьменнік – настаўнік, выпускнік Лепельскага педвучылішча 1956 года. Жыве ў вёсцы Камаі Пастаўскага раёна. Пасля сканчэння геаграфічнага факультэта БДУ ён увесь час да выхаду на пенсію працаваў настаўнікам сельскіх школ. Новая кніга складзена з 8 раздзелаў. У першым «Рэха вайны» расказваецца пра ваеннае ліхалецце (вёска, дзе жыў 7-гадовы Аркадзь, была спалена фашыстамі). Разам з бацькамі быў вывезены ў Германію, дзе пакутваў амаль два гады.***

У наступным раздзеле «Мае аднавяскоўцы» пісьменнік дае шматлікім сваім суседзям вельмі трапныя характарыстыкі, бо з дзяцінства добра ведаў кожнага. Вось кароткія апоеды:

*«Аднойчы стрыечны брат майго бацькі з нейкай нагоды ў сваёй зямлянцы (вёска была спалена) наладзіў сапраўднае застолле. Побач сядзелі бацька (мей густыя вусы, як у Сталіна) і дзядзька Валодзя (з твару быў вельмі падобны да Леніна – такія ж нос, вусы, лысіна, нават вушы, і невысокі ростам). Калі ў майго бацькі валасы і вусы былі чорныя, то ў дзядзькі рыжаватыя. Захмялеўшы, гаспадар Васіль падняўся і сказаў: "Я хачу выпіць за маіх братоў – Леніна і Сталіна". Гучалі апладысменты. І не дзіўна – быў 1949 год».*

Пачытаем яшчэ «Думкі ўслых»:

*«Калі ён падымаў цяжкае, маці папярэджвала: "Не жыўся, сынок". А цешча хваліла: "Ну і дужы..." Непрыкметна састарэў. Цешчыны словы забыліся. А матчыны – засёды былі на памяці».*

У раздзеле «За родную мову закінуць слова» гучыць трывога за лёс беларускай мовы:

*О матчына святое слова! –*
*ніхто мы без яго ў жыцці.*
*Дай, Божа, сонцам роднай мове*
*над намі некалі ўзысці.*

Хочацца дадаць, што ў Аркадзя Іосіфавіча Нафрановіча гэта ўжо сёмы зборнік твораў. Частку кніг ён падараваў Лепельскаму краязнаўчаму музею. За аповесць «Мая адысея» ўганараваны віцебскай абласной літаратурнай прэміяй імя У. Караткевіча. Узнагароджаны таксама памятным знакам «2000 год хрысціянству».

*Ілья ЯНУШ,*
*краязнавец,*
*г. Лепель*



*«Дарогі ўсёй маёй зямлі гудуць у стомленых нагах...»*

*Фота Міколы ПІВАВАРА*



*Сябры Беларусі*

# Беларуская мова – для венграў

**Нядаўна ў гістарычным цэнтры Будапешта ў Венгерскім ваенна-гістарычным музеі пад час мерапрыемстваў, прысвечаных 15-годдзю ўсталявання дыпламатычных адносінаў Беларусі і Венгрыі, быў прадстаўлены першы падручнік беларускай мовы для венгерскіх студэнтаў, выдадзены сёлета.**

Аўтар навучальнага дапаможніка – прафесар Андраш Золтан, выкладчык Будапешцкага універсітэта імя Л. Этвеша, старшыня Венгерскай асацыяцыі беларусістаў. Апроч выдання падручніка, ва універсітэце рыхтуецца да выпуску венгерска-беларускі слоўнік.

На тым жа мерапрыемстве Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар Рэспублікі Беларусь у Венгрыі Алена Купчына адкрыла выставу, прысвечаную 200-годдзю з дня нараджэння Напалеона Орды. Маладзы беларускі піяніст Аляксандр Музыкантаў выканаў творы Напалеона Орды, Фрэдэрыка Шапэна і Феранца Ліста, з якімі сябраваў беларускі мастак і кампазітар пад час перабывання ў Парыжы. Удзел у мерапрыемстве бралі прадстаўнікі дзяржаўнага кіраўніцтва, акрэдытаваныя ў Венгрыі дыпламаты, журналісты венгерскіх СМІ, творчая інтэлігенцыя і акадэмічныя колы. Як бачым, цікавасць да нашай краіны ў свеце вялікая і сведчыць аб прызнанні культурнай спадчыны Беларусі, прыналежнай да агульнаеўрапейскай.

Немалаважна, што названыя падручнік і слоўнік выдадзены за межамі нашай краіны і падрыхтаваныя іншаземцамі, неславянамі (раней аналагічны выпадак быў у Японіі, дзе такійскі беларусіст Рюноскэ Курода выдаў падручнік беларускай мовы і японска-беларускі ды беларуска-японскі слоўнік найбольш ужывальнай лексікі). Нас і нашую культуру ў свеце прызнаюць і шануюць. А мы самі?..

***Паводле матэрыялаў друку***

# У вянок любові, пашаны, памяці

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Асноўныя клопаты як у арганізацыі, так і ў правядзенні канферэнцыі ўзяў на сябе вядомы краязнаўца, рэдактар часопіса «Куфэрак Віленшчыны» Міхась Казлоўскі. Ён у той светлы і ўрачысты весні дзень найперш сустрэў на вакзале прыезджых удзельнікаў канферэнцыі, сказаў пранікнёнае слова на адкрыцці мастацкай выставы, што папярэднічала галоўнай падзеі ў фае бібліятэкі; на канферэнцыі быў вядучым, выступаў з дакладам "Янка Купала ў выдавецкай дзейнасці Заходняй Беларусі", а таксама зачытаў «Янка Купала і беларуская эміграцыя» Сяргея Чыгрына (надрукаваны ў № 20 «КГ». – Рэд.), намесніка галоўнага рэдактара «Кур'ер слонімскі», пісьменніка і краязнаўцы, які не змог завітаць у Маладзечна. А першы пасля ўступнага слова Валянціны Страх выступіў паэт Віктар Шніп. Ён прачытаў свой верш «Балада Янкі Купалы» (надрукаваны ў № 19 «КГ». – Рэд.). «Справа прарока – праўдзівае слова» – так назваў сваё выступленне паэт Васіль Жуковіч (надрукавана ў №№ 19–20 «КГ». – Рэд.). Людка Сільнова, навуковы супрацоўнік Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, шчыравала па незвычайнай тэме – «Калекцыя пячатак на кнігах Янкі Купалы». Яшчэ адна пісьменніца – Лідзія Гардынец даследавала праблему «Купалаўскія традыцыі ў творчасці паэтаў Маладзечаншчыны».

Сябра Саюза беларускіх мастакоў Мікола Аўчыннікаў – аўтар акварэльных малюнкаў «Вясна ў Вязынцы», «Лета ў Яхімоўшчыне», «Вязынка – вёска Купалы», «Лістапад у Аборку», што ўвайшлі ў серыю «Зямля паэтаў», – распавёў прысутным у зале пра майстроў пэндзля, якіх натхнілі асоба, творчасць генія і тыя вабныя мясціны, дзе ён нарадзіўся, жыў і працаваў. А гэта – Я. Раздзялоўская, Ю. Герасіменка, К. Харашэвіч, Л. Дударэнка, А. Пашкевіч, Р. Мяжуеў, В. Лазоўскі, У. Тамашэвіч.

Выкладчык мастацкага аддзялення Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М.К. Агінскага Наталля Чэрвонцава свой даклад «Параўнальны аналіз некаторых традыцыйных архетыпаў у творчасці Янкі Купалы і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве...» напоўніла яскравымі і чароўнымі вобразамі знакамітага паэта.

Цяжка было ўкласціся ў рэгламент загадчыку аддзела даўняй і новай беларускай літаратуры Інстытута літаратуры НАН Беларусі, кандыдату філалагічных навук, пісьменніку Вячаславу Чамярыцкаму: ён увазе слухачоў прапанаваў навукова абгрунтаванае ўсебаковае даследаванне «Янка Купала – перакладчык "Слова пра паход Ігара"».

У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі і іншыя навукоўцы. Так, кандыдат хімічных навук Барыс Бароўскі (ён жа – супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея) выступіў па тэме «Янка Купала ў творчасці Генадзя КахаНоўскага», а кандыдат медыцынскіх навук, краязнаўца Францішак Світо расказаў, якім бачыцца яму вобраз вялікага творцы на старонках альманаха «Нарач».

«Спроба псіхалагічнага асэнсавання асобаснага сталення Янкі Купалы напачатку XX стагоддзя (на прыкладзе перыяду жыцця ў Яхімоўшчыне)» – па сваёй сутнасці філасофскія роздумы Сяргея Цімошкі, выкладчыка Маладзечанскага палітэхнічнага каледжа, краязнаўцы. Вінцук Цішко, вучань Маладзечанскай гімназіі-каледжа, сваю тэму «Янка Купала на старонках кніг Рыгора Семашкевіча» раскрыў арыгінальна: пасля ўступнага абзаца зачытаў цытаты, якія ўспрымаліся як афарызмы.

Шырока вядома, што жыццё геніяльнага творцы трагічна абарвалася ў Маскве. Чытаючы яго біяграфію, можна звярнуць увагу на тое, што ў маладосці паэт вучыўся ў Маскоўскім народным універсітэце імя Шаняўскага. Ды, відаць мала хто ведае, што там жа вучылася і Уладзя Станкевіч, з якой якраз там, у Маскве, у Петра-Паўлаўскім касцёле ён і пашлюбаваўся. Пра асобу паплечніцы славутага паэта, драматурга і публіцыста, яе радавод паведаміла Святлана Ціс, загадчыца філіяла музея Янкі Купалы ў Яхімоўшчыне.

На мове Купалы з поспехам выдаецца і распаўсюджваецца ў сямі раёнах Міншчыны і Гродзеншчыны «Рэгіянальная газета». Выступленне яе галоўнага рэдактара Алеся Манцэвіча прагучала ў кантэксце сучаснай беларускай культуры.

***Падводзячы вынікі канферэнцыі, Міхась Казлоўскі ўручыў яе ўдзельнікам на памяць спецыяльна выпушчаныя юбілейныя паштоўкі з вывамі Янкі Купалы і Вацлава Ластоўскага. Шмат прыемных уражанняў прынесла і паездка на радзіму Купалы, дзе да яго помніка былі ўскладзены кветкі, а ля музея чыталіся вершы.***

*Васіль АЛЯКСЕЙЧЫК*

### Удакладненне

Па тэхнічных прычынах у № 20 «КГ» выпала тое, што аўтарам артыкула «Янка Купала і беларуская эміграцыя» з'яўляецца Сяргей Чыгрын. Гэтае даследаванне было змешчана ў Матэрыялах навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Слядамі Купалы», нядаўна выдадзеных намаганнямі Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя М. Багдановіча.

З тых жа прычын і іншыя абмылкі ў гэтым жа нумары. Просім прабачэння за гэта.

## *Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
## *беларускай старажытнасці*



**ШЛЯХТА** *(заканчэнне артыкула).* У прывілеях 1432 і 1434 гг. вялікі князь ВКЛ мусіў гарантаваць роўныя правы з каталіцкімі і незадаволеным няроўнасцю праваслаўным князям ды баярам. Прывілей 1447 г. даваў права ўсёй шляхце ВКЛ судзіць сялян у сваіх маёнтках. Правы дзяржаўных судоў перадаваліся феадалам. Судзебнік 1468 і Статут ВКЛ 1529 гг. яшчэ больш замацавалі феадальныя правы. Адасабленне шляхты ад ваенных слуг пазначана ў Статуце 1529 г. Але да сяр. XVI ст. былі ўведзеныя новыя заканадаўчыя нормы, каб скараціць лік тых, хто мог атрымаць шляхецтва, каб яго маглі дабіцца толькі тыя, хто высока адзначаўся асабіста гетманам, сеймам і вялікім князем.

Лік баяр-шляхты Беларусі па этнічным паходжанні (паводле перапісу войска 1528 г.) у розных паветах быў розны. Але ў асноўным сярэднія і дробныя феадалы беларускага паходжання (падлік А. Грыцкевіча) складалі 80 % усіх феадалаў. У Гайнскім, Браслаўскім і Рагачоўскім паветах і Гарадзецкім (цэнтр Давыд-Гарадок) княстве іх было 100 %, у Мсціслаўскім княстве – 93,8, у паветах Пінскім – 98,9, Мінскім – 97, Віцебскім – 95,1, Наваградскім – 91,7, Кобрынскім – 91, Слонімскім – 88,9, Берасцейскім – 85,8, Ваўкавыскім – 81,9, Гродзенскім – 76,7. Найбольшы літоўскі этнічны элемент сярод шляхты быў у Радунскім (48,3 %), Лідскім (43,7), Ашмянскім (38,6), Жалудоцкім (36,1) паветах. Перасяленне польскіх феадалаў у ВКЛ не дазвалялася законам. Статуты 1529, 1566 і 1588 гг. забаранялі іншаземцам набываць у ВКЛ маёмасць.

З сяр. XVI ст. шляхта на Беларусі, Украіне і Літве праз саюз з вялікакняжацкай уладай дабілася ўзвышэння сваёй ролі ў дзяржаве (шляхецкія павятовыя сеймікі, суды і інш.). Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння Беларусі да Расійскай імперыі царскі ўрад рабіў усё магчымае, каб прынізіць беларускую шляхту – зганьбаваць яе гісторыю і традыцыі, паменшыць яе лік, многіх перавесці ў аднадворцы, мяшчане, сяляне, не даць магчымасці атрымаць высокія адукацыю, пасады і інш. Адпаведна, і беларуская шляхта неаднойчы (1830–1931, 1863–1864 гг.) брала ўдзел у антыцарскіх паўстаннях, за што яе чакала строгае пакаранне, у тым ліку і смяротная кара альбо доўгатэрміновая высылка ў Сібір. Савецкая афіцыйная ідэалогія таксама не прызнавала былых заслуг шляхты, намагалася самым розным чынам скампраметаваць яе, а з ёю і амацаваную ёй краіну – ВКЛ, што была створана прыкладна ў 1246 г. і амаль да канца XVIII ст. развівалася на беларускім грунце.

**ШНУР** – адзінка вымярэння даўжыні і плошчы ў сістэме мер ВКЛ. Быў роўны 75 локцям (прыкладна каля 49 м або 0,3 га). Ужываўся пры пазямельных вымярэннях.

**ШЫБЕНІЦА** (ад ням. гайдацца) – прыстасаванне для пакарання людзей смерцю, зробленае з двух слупоў з перакладзінай. У ВКЛ знаходзілася ў *двары судовым* ці на плошчы (у людным месцы). У даўніну, як сведчаць летапісы і іншыя дакументы, многія плямёны і народы, у тым ліку і славянскія, не абцяжарвалі сябе прыладамі для пакарання вінаватых альбо абылганых, вешалі іх на моцным суку дрэва. Тэрмін «шыбеніца» названы ў Статуце ВКЛ 1588 года як строгая мера пакарання для злачынцаў.

**ШЫНКАР** – у ВКЛ гандляр гарэлкай, віном, півам. Шынкары былі ў гарадах, у сельскіх паселішчах, дзе арандавалі ў пана шынок альбо карчму. У вялікакняжацкіх (каралеўскіх) гарадах над шынкамі і шынкарамі быў назірк *магістрата*, у прыватнаўласніцкіх – *магнатаў*, уладальніка горада, якія сачылі за іхняй дзейнасцю, устанаўлівалі цэны на спіртныя напоі. Бывала, дзейнасць шынкароў прыносіла вялікі прыбытак ім і іхнім уладальнікам, але, таксама бывала, што простаму люду ўсё гэта несла страты, бяду і гора. Уладальнікі, багацеі часта кантралявалі дзейнасць шынкароў («гарэлачнае») найперш дзеля сваіх асабістых мэт.

**ШЫХ** – вайсковы лад, строй, парадак. У ВКЛ, як і ў іншых краінах свету, была цвёрда заведзеная ваенная арганізацыя, пры якой вайсковая адзінка, вайскоўцы розных рангаў у ёй знаі свае месца і задачы. Апошняе асабліва патрабавалася ў часы небяспекі для дзяржавы – *паспалітага рушэння,* калі кожны шляхціц і іншыя асобы краіны павінны былі з'явіцца на зборную мясціну і быць гатовымі пазмагацца сілай духу і зброі за родны народ. Кожным мясцовым падраздзяленням прадпісвалася яшчэ і ведаць сваё месца ў значнай вайсковай сіле – *у харугве.* Нават калі вядомы шляхціц парушаў гэтыя заведзеныя і зацверджаныя законам пастановы, то яго маглі строга пакараць за самавольства і ўхіленне ад выканання сваіх воінскіх абавязкаў. У тым ліку яго пазбаўлялі права на уладанне маёмасцю.

**ШЭЛЕГ** (першапачатковае з лац.) – беларуская і ўкраінская назва *соліда* ў XV–XVIII стст. Білонная манета вартасцю *траціны гроша.* У грашовым абарачэнні ВКЛ акрамя гэтага шэлега (маса 1,12 г) быў распаўсюджаны і польскі шэлег (маса 0,59–0,93 г), і рыжскі шэлег (маса 0.59–0,93 г).




### Склад
### рэспубліканскага савета па правядзенні рэспубліканскай акцыі навучэнскай моладзі «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся»

**Кавалёва** Таццяна Мікалаеўна, намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь, старшыня;

**Бутрым** Георгій Аляксеевіч, начальнік упраўлення сацыяльнай і выхаваўчай працы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні;

**Мітраховіч** Сяргей Стэфанавіч, дырэктар Установы адукацыі «Рэспубліканскі цэнтр турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі», намеснік старшыні;

**Кравец** Аляксандра Яўгенаўна, загадчыца аддзела краязнаўства Установы адукацыі «Рэспубліканскі цэнтр турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі», сакратар;

**Андрушкевіч** Анатоль Міхайлавіч, вядучы інспектар упраўлення сацыяльнай і выхаваўчай працы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь;

**Борыс** Сямён Вікенцьевіч, рэдактар аддзела методыкі выкладання гісторыі ў школе рэдакцыі часопіса «Беларускі гістарычны часопіс»;

**Грышачка** Вера Віктараўна, намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама;

**Ягорава** Таццяна Аляксееўна, галоўны інспектар упраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь;

**Жук** Аляксандр Фёдаравіч, першы намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Брэсцкага аблвыканкама;

**Каліноўская** Лідзія Паўлаўна, дырэктар Установы адукацыі «Рэспубліканскі экалагічны цэнтр дзяцей і моладзі»;

**Каліціна** Таццяна Леанідаўна, начальнік упраўлення выхаваўчай працы камітэта па адукацыі Мінскага гарвыканкама;

**Кацегава** Лідзія Іванаўна, намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама;

**Кулеш** Мікалай Парфір'евіч, намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама;

**Лявонава** Святлана Віктараўна, намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама;

**Мяшэрская** Валянціна Віктараўна, намеснік начальніка ўпраўлення друкаваных сродкаў масавай інфармацыі і знешніх сувязяў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь (па ўзгадненні);

**Міцянкоў** Максім Валер'евіч, кансультант аддзела навукі і новых тэхналогій Дзяржаўнага Камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь;

**Мукалаў** Анатоль Аляксандравіч, намеснік начальніка ўпраўлення навучальных устаноў і кадраў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь;

**Ануфрыева** Надзея Генадзьеўна, дырэктар Установы адукацыі «Нацыянальны дзіцячы аздараўленчы лагер "Зубраня"»;

**Пашкевіч** Святлана Георгіеўна, навуковы супрацоўнік дзяржаўнай навуковай установы «Інстытут фізіялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі», кандыдат біялагічных навук, старшыня Савета маладых вучоных Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі;

**Савіч** Вольга Уладзіміраўна, намеснік начальніка аддзела інфармацыі Міністэрства прыродных рэсурсаў і ахովы навакольнага асяроддзя;

**Саўчук** Тамара Мікалаеўна, галоўны інспектар упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь;

**Салаўёва** Алена Уладзіміраўна, кансультант упраўлення турызму Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь;

**Цвірка** Віктар Іосіфавіч, дырэктар Установы адукацыі «Рэспубліканскі цэнтр тэхнічнай творчасці навучэнцаў»;

**Цыганкова** Таццяна Якаўлеўна, намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама;

**Чак** Ілона Антонаўна, галоўны інспектар упраўлення прафесійна-тэхнічнай адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь;

**Шапуроў** Уладзімір Леанідавіч, дырэктар Установы адукацыі «Нацыянальны цэнтр мастацкай творчасці дзяцей і моладзі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь;

**Яскевіч** Святлана Васільеўна, галоўны рэдактар газеты «Раніца» Установы «Рэдакцыя газеты "Настаўніцкая газета"».

*Нядаўна ў рэдакцыю «КГ» кіраўніком літаратурна-краязнаўчага гуртка «Памяць» Уладзімірам Сцяпанавічам Кажамякам быў дасланы ліст, у якім паведамляецца наступнае:*

*«Ільянская агульнаадукацыйная сярэдняя школа мае краязнаўчы ўхіл. Аб гэтым Вы ўжо пісалі ў публікацыі "Наш ухіл – краязнаўчы". Краязнаўству ў школе надаецца значная ўвага. Праводзіцца шмат розных мерапрыемстваў. Дзеці ўдзельнічаюць у рэспубліканскіх краязнаўчых конкурсах. Нашы конкурсныя працы неаднаразова перамагалі. Вось і зараз атрыманыя дыпломы і прызы за перамогу ў рэспубліканскіх конкурсах праектаў краязнаўчых маршрутаў "Мой край", даследчай дзейнасці і навуковых дасягненняў музеяў установ адукацыі.*

*У школе працуюць гурткі: турыстычна-краязнаўчы, літаратурна-краязнаўчы, "Фальклор і мастацтва наваколля", "Вілейшчына літаратурная" і іншыя. Літаратурнаму краязнаўству адводзіцца важная роля. Дзеці вучацца пісаць тэксты на краязнаўчыя і іншыя тэмы. Іх літаратурныя працы наша школьнае выдавецтва "Ільянскія далягляды" друкуе ў выглядзе кніжачак пад тытулам "Мая першая кніжка". Некаторыя тэксты ўжо друкаваліся ў газетах. Мяркуем, што і "Краязнаўчую газету" могуць зацікавіць некаторыя работы нашых маладых аўтараў».*

*...Зацікавілі, паважаныя гуртkoўцы. Таму з задавальненнем іх друкуем.*

# Залессе

Мабыць, на Беларусі вёсак з такой назвай сама болей. Кажуць праўду, дзе лес – там і Залессе, гэта значыць, месца за лесам. Наша вёска знаходзіцца за ракой Іліяй на другім яе беразе, за лесам, гэта калі ісці па новай асфальтавай дарозе на ўсход у бок Лагойска.

Асобным часткам лесу вяскоўцы далі назвы. Напрыклад, Рачыцкі лес. Там, дзе раней знаходзіўся хутар Рачыцкіх. Ёсць і лес Антонава (Антонаў лес), ля былога хутара Антонава.

У кнізе «Памяць. Вілейскі раён» пра нашу вёску напісана: «Залессе. У 1843 г., 1855 вёска Залескія, у маёнтку Залессе, уласнасць Норберта Васнеўскага. У 1938 г. у Ільянскай вясковай гміне, 27 двароў, 151 жыхар. У 2003 годзе вёска, 36 двароў, 68 жыхароў, магазін».

Маёнтак Васнеўскіх у Залессі быў не вельмі вялікі. Васнеўскія мелі тут вялікі драўляны дом. Мая бабуля Вікторыя Іванаўна Спірыдовіч некалі яшчэ служыла ў іх. Пасля падзей 1939 года гэтых паноў у Залессі не стала. У іх доме новыя ўлады адкрылі пачатковую школу для мясцовых дзяцей. Многіх у Залессі вучыў мясцовы жыхар Пётр Піліпавіч Яноўскі.

П. П. Яноўскі пачынаў сваю педагагічную дзейнасць з хатняга настаўніка. Нарадзіўся ён у 1891 годзе, атрымаў педагагічную адукацыю ў Баруноўскай царкоўна-настаўніцкай школе на Ашмяншчыне, званне настаўніка царкоўна-прыходскай школы без права вучыць царкоўным спевам. З 1912 па 1960 гады да выхаду на пенсію працаваў у Залессі настаўнікам у пачатковай школе. У 1927 годзе, калі беларуская школа ў Залессі палякамі была закрыта, Пётр Піліпавіч працаваў рахункаводам у гуце «Залессе». З верасня 1939 года зноў настаўнікам. Пры немцах ён займаўся ўласнай гаспадаркай і быў сувязным партызанскага атрада «Жалязняк». У сакавіку 1945 года Пётр Піліпавіч быў узнагароджаны Граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Цікава, што яго сын Сяргей (таксама партызанскі сувязны) пасля вайны ў 1947 годзе стварыў і кіраваў на Маладзечаншчыне маладзёжнай абласной нелегальнай патрыятычнай арганізацыяй. Яна была створана пасля ліквідацыі шырокамаштабнага патрыятычнага падполля на Маладзечаншчыне. Дзейнасць гэтай арганізацыі была накіравана супраць палітыкі сталінскага рэжыму. Сяргей Яноўскі атрымаў 20 гадоў турмы, але быў адпушчаны раней, пасля смерці Сталіна.

Панскі дом, дзе была Залеская пачатковая школа і дзе вучыліся мае бацькі і старэйшыя сёстры, захаваўся да сённяшняга дня. Цяпер ён пусты.

Я люблю сваю вёску. Тут усё знаёмае і роднае. Асабліва хораша вясною, калі абуджаецца прырода, калі з'яўляюцца кветкі на лугах і ў садах. А садоў у вёсцы шмат. Яны ёсць у кожным двары. Прыгожымі бываюць яблынькі і грушы, абсыпаныя кветкамі. І каліна весела выглядае каля плоту. Восенню яе прыгожыя ярка-чырвоныя ягады бачны здалёк. Але яны зусім не смачныя. Трэба, каб іх «прыхапіў» мароз, тады можна есці. Кажуць, што сок калінавых ягад вельмі карысны для здароўя. А яшчэ каліна меданосная і дэкаратыўная расліна.

У нашай суседкі Марыі Пятроўны Тонкавіч ёсць вуллі з пчоламі. Гэта яе зяць Віктар займаецца пчалярствам ужо сем гадоў. Мёд вельмі смачны, бо пчолы збіраюць нектар з розных раслін.

Пра наша Залессе можна напісаць шмат усяго цікавага. Тут можна пабачыць дарогі даўняй пары, ямчэ брукаваныя і вузкія, абсаджаныя дрэвамі. Цікава тут пагуляць з жыхарамі.

Але ж годзе ўжо...

За лесам у Залессі цвітуць сады – вясна ідзе.

*Дар'я СПІРЫДОВІЧ,*
*вучаніца Ільянскай СШ з краязнаўчым ухілам імя А.А. Грымаця*





# Сярод жоўтага ўладарства

Хутка знікне дзьмухаўцовае ўладарства, разляціцца. Ветрык падхопіць апошнія «парашуцікі», дазволіць ім яшчэ крыху пакружыцца, а потым панясе ў небыццё. Але зямля не забудзе, як пад час дажджлівага і пахмурнага надвор'я сярод травы раптоўна з'явіліся жоўтыя плямкі, упрыгожылі наваколле, нагадалі ўсяму жываму пра ўрачыстасць існавання. Таму з нецярпеннем яна чакае наступнай вясны, чарговага свайго абуджэння.



Зусім нядаўна дзьмухаўцы шчыра запрашалі людзей да сябе ў госці, на жоўтае покрыва, радасна віталі. Гэтак яны сустрэлі мяне 18 мая ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту, што знаходзіцца непадалёк ад Мінска. Прапанавалі здзейсніць незвычайнае падарожжа, адправіцца ў мінулае. Але перад гэтым запрасілі на выступленне дзіцячага калектыву «Калыханка», які выконваў на сцэне народныя песні, а таксама гульні.



Пасля, праз некалькі метраў, мы апынуліся на тэрыторыі сядзібы пагоннага тыпу з вёскі Ісерна Слуцкага раёна. За Цэнтральнай Беларуссю, за пагоркам раскінулася Падняпроўе. А за ім амаль праз кіламетр – Паазер'е. Тут і млын з вёскі Янушоўка, і пуня з Ваўкаўшчыны, і клець, і адрына, і лазня. Звілістая дарога прывяла да сядзібы з вёскі Будзічы Докшыцкага раёна. Вяночны тып яе двара складаецца з 2-х частак: чыстага (хата з сенямі і варыўняю, майстэрня для вырабу калаўротаў; свіран, клець, калодзеж-журавель) і гаспадарчага двара (хлявы для свойскай жывёлы і пляцоўка для яе дзённага ўтрымання, хатка батрака, дзяннік).



Прыемна зайсці спякотным днём у прахалоду вясковай хаты. Пасядзець на лаўцы, паслухаць цішыню ўжо амаль страчанай Беларусі. І няхай у хаце даўно не жывуць людзі. Толькі нікуды не знікла адчуванне, што гаспадары завіхаюцца ў двары і з хвіліны на хвіліну вернуцца. Уяўляецца, як пабачаць цябе, а пасля ветлівага «Дабрыдзень!», як самага шаноўнага госця, запросяць да стала, на покуць...

Расквецілі зямлю, напоўнілі ўрачыстасцю жоўтыя дзьмухаўцы. Зрабілі прыгожымі змрочныя на першы погляд хаты, хлявы, гумны, клеці, пуні. Можа, і старыя цэрквы, помнікі народнага драўлянага дойлідства, якія ўжо даўно сумна і адзінока стаяць сярод пагоркаў, некалі таксама па-асабліваму папрыгажэюць, напоўняцца ўрачыстасцю.

*Ігар ГРЭЧКА, фота аўтара*

*22 мая ў музеі адбылася прэс-канферэнцыя з нагоды адкрыцця выставы «Будынкі з Усходняй Фінляндыі». На пытанні прадстаўнікоў СМІ адказалі фінскія архітэктары Осмо Карттунен і Ханну Піппонен.*

*Выстава, якая будзе экспанавацца на працягу месяца, раскажа наведвальнікам пра асаблівасці выкарыстання гонтавага даху на фінскіх будынках, пра тэхналагічны працэс яго стварэння. Значная частка экспанатаў прысвечана рамонту даху званіцы (пабудавана ў 1834–1836 гадах) у Кесялахці. Асаблівасці пакрыцця гэтай званіцы ў тым, што гонту выцёсвалі ў форме сілуэта даху. Для большай трываласці перыядычна абнаўлялася прасмолка, таму не дзіва, што першапачатковае пакрыццё вытрымала 170 гадоў.*

*Цікава даведацца, напрыклад, што раней ужывалася цясаная гонта, якая ў ХХ стагоддзі паступова пачала замяняцца пілаванай. Экспанаты-плакаты раскажуць і пра выкарыстанне даўнейшых прыёмаў пакрыцця на сучасных будынках Фінляндыі. Дарэчы, беларусам ёсць тут чаму павучыцца.*

**Памяць**

# Ушанаваць ахвяраў рэпрэсіяў

Нядаўна стала вядома, што Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт падтрымаў грамадскі аргкамітэт у дзеяннях па ўшанаванні памяці ахвяраў сталінізму ў рамках мерапрыемстваў Года памяці, прымеркаванага да 70-годдзя кульмінацыі палітычных рэпрэсіяў у СССР. Пра гэтае гаворыцца ў адказе кіраўніка Беларускай праваслаўнай царквы на зварот грамадскага аргкамітэта па ўшанаванні памяці рэпрэсаваных і зацвярджэнні 29 кастрычніка Днём памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў у Беларусі.

Даследчык тэмы рэпрэсіяў кандыдат гістарычных навук Ігар Кузняцоў у інтэрв'ю БелаПАН паведаміў, што ў лісце мітрапаліта Філарэта ёсць падрабязны аналіз дзейнасці праваслаўнай царквы па мемарызацыі памяці без віны рэпрэсаваных, у тым ліку – святароў. Апошнім часам гэтаму пытанню надаецца вялікая ўвага. Прыкладам, выдадзены на беларускай мове двухтомнік даследчыка Леаніда Маракова пра рэпрэсаваных святароў, рыхтуецца да абароны дыпломная праца айца Фёдара аб рэпрэсіях праваслаўных святароў у 1917–1950-я гады. Нядаўна выйшла кніга пра ахвяраў палітычных рэпрэсіяў у Мінскай епархіі; цяпер вядзецца праца над падрабязным выданнем па Віцебскай епархіі. З дабраславення мітрапаліта вядуцца такія даследаванні па астатніх епархіях Беларускага экзархата. Зыходзячы з гэтага, гісторык І. Кузняцоў лічыць, што адказ «сведчыць пра вялікую ўвагу праваслаўнай царквы да ўшанавання памяці ахвяраў сталінізму». Але ён выказаў шкадаванне з прычыны адсутнасці «актыўных рабочых кантактаў між грамадскім аргкамітэтам і іерархамі БПЦ...»

***Паводле матэрыялаў друку***



*Змагалася... Пакуль не спілавалі*

# Загадкі тапаніміі

***Тапанімія нашага роднага краю вельмі разнастайная. Яна носіць у сабе шмат разумнага і цікавага. Вакол назваў гарадоў, вёсак і паселішчаў складаюцца разнастайныя легенды, часам наіўныя, фантастычныя. І гэта не выпадкова. Народ беларускі заўжды імкнуўся неяк растлумачыць невядомае, сучасныя паняцці, формы і значэнні слоў перанесці на той далёкі час.***

Назвы, у якіх захоўваецца імя народаў, мы вызначаем як этнонімы. На Беларусі можна сустрэць Ляхавічы (даўняя назва аднаго з старажытных славянскіх плямёнаў), Літву, Крывічы, Цыгань і многія іншыя. Мазурамі звычайна называлі значную этнічную групу палякаў з паўночна-усходняй тэрыторыі нашай заходняй суседкі-краіны. З тэрыторыі ўсходняй Прусіі пад націскам крыжакоў асобныя групы мазураў перасяліліся на ўсход і паўднёвы ўсход, заснаваўшы там свае пасяленні. Так з'явіліся ў Беларусі Мазуры, Мазуркі і вытворныя ад іх найменні.

Доўгі час паходжанне назвы Мазыра заставалася загадкавым. У запісах XII–XIV стагоддзяў сустракаецца Мозыр, Мазыр, дзе ь перадаваў гук даволі невыразны, але ж ён быў блізкі да «а», «у», «о».

Старажытная назва «масур» перайначвалася па-рознаму. На паўночным захадзе нашай краіны ўжо няма Мазуры, Мазуршчына, але ёсць Мосыры Глыбоцкага і Мосар Ушацкага раёнаў. У пісцовых кнігах XIV стагоддзя чытаем: «... с Мосыря с деревнями». Такая ж назва сустракаецца і на ўкраінскім Палессі. Вядомы краязнаўца і гісторык М.К. Любаўскі, калі размова ішла аб паўночным захадзе Беларусі, выкарыстоўваў таксама Мусыр. Каранёвыя галосныя не былі тут устойлівымі (Мосар, Мосыры, Мосары, Мосыр), што яшчэ раз падкрэслівае магчымасць з'яўлення назвы Мазыр ад слова «Мазур».

Пра вёску Латыголь (іх на Беларусі ажно пяць) людзі гаварылі, што мясцовыя жыхары, маўляў, хадзілі ў латах, а то і, наогул, амаль голыя (голь). Але зноў жа назвы гэтых вёсак паходзяць зусім ад іншага. Калісьці Латгалію (паўднёва-усходнюю частку Латвіі) называлі Латыголлю, адгэтуль і назвы выхадцаў з тых мясцін і краёў, а таксама паселішчаў, што яны заснавалі.

Шмат цікавых легенд існуе ў народзе аб узнікненні той ці іншай геаграфічнай назвы. Яны звычайна носяць паэтычны, лірычны характар, але ж, з захапленнем слухаючы іх, памятайце, што легенды не заўжды адпавядаюць навуковай ісціне.

***Мікалай ГЛЕБ, в. Падлессе Ляхавіцкага раёна***








# 2007: Год Слова Купалы і Коласа

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–20)*

У гэты час у Вільні, у «Нашай Ніве», адбываецца і блізкае знаёмства Я. Купалы з будучым грамадскім дзеячам і літаратарам В. Ластоўскім (апошні пасля нагадваў, што тады паэт меў сталую працу ў бібліятэцы Даніловіча і падзаробак у «Нашай Ніве»; там жа, у выдавецкай канторцы, быў у Купалы і куток для жылля). В. Ластоўскі, пераехаўшы з Рыгі, па запрашэнні рэдактара «Нашай Нівы» пачаў працаваць на пасадзе сакратара рэдакцыі, часта бачыўся з Купалам, размаўляў з ім пра беларускую, усеславянскую гісторыю і літаратуру, шмат чаму вучыўся ў маладога, але ўжо вядомага паэта, які, «працуючы ў бібліятэцы, многа чытаў, асабліва навейшых тагачасных расійскіх і польскіх паэтаў... Я. Купала бываў частым у нас госцем, асабліва ў дні адпачынку, якія, час ад часу, праводзілі разам то дома, то па-за домам – у гарадскіх садах» (В. Ластоўскі).

У красавіку верш Я. Купалы «Памяці Шаўчэнкі» з'яўляецца ў ЗША (ва ўкраінскай газеце «Свабода»). У маі культурныя дзеячы са Львова прадоўжылі прапаганду творчасці Я. Купалы (у зборніку «Письмо з "Просвіті"» з'яўляецца артыкул І. Крып'якевіча «Беларусы», дзе з новага пакалення беларускіх пісьменнікаў найперш вылучаецца Купала. Там жа змешчаны і новыя пераклады ягоных вершаў). У чэрвені ладзяцца Купалавы літаратурныя вечары ў Пецярбургу. Увесь гэты час ён шмат піша вершаў, якія ўсё больш і больш адыгрываюць станоўчую ролю ў станаўленні ягонай паэтычнай рэпутацыі. Адпаведна, ён не сцярплівае, калі на яго, беларускага паэта па духу, ужо асцерагаюцца жорстка нападаць, але не перастаюць ганьбіць любімую і дарагую яму «Нашу Ніву». Калі ў ліпені часопіс Віленскага чарнасоценнага таварыства «Крестьянин» пачаў зноў цкаваць названае беларускамоўнае выданне, ён тут жа ды ўжо не столькі ўзрыўна-эмацыянальна, як раней, а з годнасцю, нават нібыта пасміхаючыся з пазіцыі сваёй вартаснай вышыні, лёгка пстрыкнуў чарнасоценцаў некалькімі гумарыстычнымі творамі «Два мужыкі і глушэц», «Апекунам», «Лямант пана Кавалюка» (гэта быў тады рэдактар вышэйназванага антыбеларускага часопіса). Праўда, некаторыя з гэтых вершаў «хадзілі» толькі па руках, пабачылі свет значна пазней, у 1920-я гады. У жніўні 1909-га новыя беларускія пісьменнікі пачынаюць актыўна трапляць у поле зроку і польскамоўнага друку. Напрыклад, у Кіеве, у часопісе «Погляд краёвы», дзе аглядальнік Е. Янкоўскі выдзяляе творчасць Я. Купалы і Я. Коласа. Што да Купалы, то там падкрэсліваецца, што ён «сапраўды чалавек з народа», які прайшоў «суровую грамадзянскую школу і перажыў палітычнае пекла», але здолеў «патрапіць на сваю народную песню... Нібы паказваючы негрунтоўнасць меркаванняў пра штучнае адраджэнне беларускай культуры, вырас паэтычны талент Купалы. Арганічнасць яго з'яўлення бясспрэчная... Маладая беларуская паэзія займе пачэснае месца ў шэрагу братніх славянскіх літаратур».

Пачытайце і цяпер, калі ласка, уважліва! Якія разуменне і прадбачанне светлай, плённай творчасці Янкі Купалы і беларускамоўнай літаратуры! Іх шчыра «выводзілі» з беларускіх застрэшкаў у еўрапейскія харомы! І агучвалі, паказвалі, што беларускае слоўка пашанотнае і там! Гэтым самым і таму ж Янку Купалу было падмацаванне: Вы – паэт! Вы – паэт вялікага ўзроўню!

## У пошуках ведаў*

***З першых крокаў літаратурнай дзейнасці Янка Купала сустрэў шчырых і бескарыслівых прыхільнікаў свайго таленту, якія адразу адчулі, кім ёсць і, галоўнае, кім павінен стаць для беларускага народа малады пясняр-самавук.***

Сярод гэтых прыхільнікаў найбольш шчыры, самааддана закаханы ў талент паэта быў Уладзімір Самойла, сын дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча, сам здольны літаратар і вельмі сумленны чалавек. З яго прыхільнай дапамогай 15 мая 1905 года ў газеце «Северо-Западный край», якая выдавалася на рускай мове ў Мінску, быў змешчаны верш Янкі Купалы «Мужык». А праз тры гады, калі свет убачыў першы зборнік Купалавых вершаў «Жалейка», У. Самойла ў газеце «Минский курьер» з незвычайнай радасцю і прарочым прадбачаннем пісаў: «На вуліцы "Маладой Беларусі" вялікае свята! Сонца жывой, сапраўднай паэзіі заглянула ў ваконца цёмнай, беднай, але вялікай хаты беларускага народа... Мы прысутнічаем пры гістарычнай падзеі надзвычайнай для краю важнасці.

Беларуская песня з галіны этнаграфіі пераходзіць у галіну літаратуры... І "Жалейка" Янука Купалы – адзін з несумненных доказаў гэтага буйнога факта...

Няхай ён будзе для беларусаў тым, кім быў Шаўчэнка для Украіны! Пажадаем яму творчых сіл для песень і пасадзейнічаем самаму шырокаму распаўсюджанню першага выпуску твораў сапраўднага беларускага паэта... Прыйдуць лепшыя часы, – і за подзвіг яго родны народ заплаціць лепшай сваёй удзячнасцю – бессмяроццем!»

У. Самойла разумеў, што маладому паэту, за плячыма ў якога было толькі Бяларуцкае народнае вучылішча, перш-наперш трэба павышаць сваю адукацыю, пашыраць кругагляд, а дзеля гэтага ён павінен вучыцца. Але дзе? Пра рэальнае вучылішча і гімназію нечага было і думаць: Купалу пераваліла ўжо за дваццаць. Гаворка магла ісці толькі пра агульнаадукацыйныя курсы для дарослых, але такіх курсаў ні ў Беларусі, ні ў Літве ў той час не было. Такія курсы былі ў Пецярбургу.

*А. Чарняеў*
*Фота з фондаў музея Я. Купалы*

Горад вялікай культуры і багатых гістарычных традыцый даўно вабіў маладога паэта. Але проста так сарвацца з месца і паехаць у свет «па навуку» ён не мог, бо не мог разлічваць на дапамогу сям'і, якая ледзь зводзіла канцы з канцамі. Нічым не магла дапамагчы свайму супрацоўніку і «Наша Ніва». Заставалася адна надзея – звярнуцца да прафесара Б.І. Эпімаха-Шыпілы. І У. Самойла хапаецца за яе. *«Памажыце яму* (Янку Купалу. – **Ж.Д. і В.Д.**), *– піша ён выдаўцу "Жалейкі", – Вашай цудоўнай выпрабаванай працай, але захаваўшы ўсю свежасць юнацкай чысціні веры ў чалавека сэрцам. У Ваш уплыў я глыбока веру».*

Позняй восенню 1909 года Янка Купала выязджае з Вільні ў Пецярбург да Б.І. Эпімаха-Шыпілы. Браніслаў Ігнатавіч запрашае яго да сябе на кватэру. У яго Купала і жыў, у яго і сталаваўся, ён жа ўносіў плату за навучанне на курсах Чарняева і нават ахвяраваў пэўную суму на асабістыя патрэбы паэта: кіно, тэатр, конку і г.д. Амаль чатыры гады пражыў Янка Купала ў гасціннай кватэры гэтага руплівага, апанаванага ідэяй бескарыслівага служэння свайму народу чалавека.

Вялікую папулярнасць у той час мелі агульнаадукацыйныя курсы Чарняева. Хто ж ён такі, А.С. Чарняеў, арганізатар і кіраўнік гэтых курсаў?

Нарадзіўся А.С. Чарняеў 23 лістапада 1873 года ў вёсцы Петрына Гразавецкага павета Валагодскай губерні ў сялянскай сям'і. Лёс яго шмат чым нагадваў лёс нашага паэта. Вельмі рана ўсе блізкія заўважылі ў ім вялікія здольнасці, не па гадах сур'ёзныя адносіны да жыцця. Але як Дамінік Ануфрыевіч, замест таго, каб аддаць Янку ў рэальнае вучылішча, «пусціў яго па гаспадарцы», так і бацька А.С. Чарняева таксама вырашыў, што пачатковай адукацыі сыну хопіць, і аддаў яго «ў людзі».

Працуючы швейцарам у адной з пецярбургскіх гасцініц, Чарняеў настойліва займаецца самаадукацыяй. Праз чатыры гады паспяхова здае экзамены пры Пецярбургскай духоўнай семінарыі і атрымлівае на законных падставах пасаду настаўніка ў вёсцы Калагрываў Гдоўскага павета. Працуючы ў школе, А.С. Чарняеў не без поспеху займаўся паэтычнай дзейнасцю. Яго вершы гэтага перыяду, ідэйна і тэматычна звязаныя з дэмакратычнай паэзіяй, выдадзены асобным зборнікам «Родные картины».

Жаданне рабіць дабро людзям, жыць дзеля іх цалкам захапляе юнака. У 1900 годзе ён едзе ў Пецярбург і становіцца спачатку вольным слухачом на фізіка-матэматычным факультэце універсітэта па разрадзе прыродазнаўчых навук, а праз год паступае ў Археалагічны інстытут.

Па сабе ведаючы, як цяжка чалавеку, які не мае сродкаў, атрымаць адукацыю, А.С. Чарняеў вырашае стварыць сярэднюю навучальную ўстанову для дарослых, у якой маглі б атрымліваць веды такія, як ён сам, няшчасныя «пасынкі жыцця», якія дзеля навукі гатовы былі адолець усялякія перашкоды на сваім шляху. Такія курсы былі адкрыты, і ён стаў працаваць там выкладчыкам.

У 1903 годзе А.С. Чарняеў скончыў Археалагічны інстытут і здаў экзамены па ўсіх асноўных прадметах за курс універсітэта. Але на гэтым яго адукацыя не спыняецца. Прадметам яго захаплення цяпер становяцца філасофія і права, матэматыка, літаратура, сацыялогія, педагогіка.

***Жанна ДАПКЮНАС, Вольга ДЭКОНСКАЯ***

***(Заканчэнне будзе)***

*Газетны варыянт

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–20)*

*Канстытуцыю далі,*
*Адчынілі дзверы,*
*І... ў астрог павялі,*
*І таўкуць без меры.*

*Зашумелі аб зямлі*
*Ў Думе дэпутаты,*
*Ды па карку ім далі –*
*І пайшлі дахаты.*

*Архірэй наш Міхаіл*
*Тураўскі і Мінскі*
*Чорнай сотні толькі міл,*
*Бо робіць па-свінскі.*

*Ганчакамі па Русі*
*Прыставы лятаюць,*
*Нас цкуюць: «Кусі, кусі!» –*
*Як зайцоў, страляюць.*

*Развялося стражнікоў,*
*Як якой жывёлы,*
*Ад іх плешак і шнуроў*
*Чырванеюць сёлы.*

*Колькі ўсякіх строгіх мер –*
*Канца няма, краю!*
*Канстытуцыю цяпер,*
*Як пяць пальцаў, знаем.*

*1909. Пачатак студзеня.* Прафесар Львоўскага універсітэта І. Свянціцкі дасылае ў газету «Наша Ніва» ліст, дзе шчыра віншуе яе з пачаткам новага года дзейнасці і просіць перадаць «душэўнае прывітанне... песнярам народнай долі – Янку Купалу і Якубу Коласу, якія песнямі сваімі над горам народным плачуць і свету пра яго расказваюць і народ ад сну абуджаюць».

*Студзень, 22.* Вядомы ўкраінскі вучоны і грамадскі дзеяч Д. Дарашэнка ў артыкуле «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне», надрукаваным у перакладзе з украінскай мовы ў «Нашай Ніве», дае высокую ацэнку новай беларускай літаратуры, у тым ліку і Я. Коласу. Даследчык, у прыватнасці, пісаў: «Побач з Янкам Купалам ідзе вельмі здольны малады пясняр Якуб Колас. Таксама выйшаў ён з вёскі, таксама ўсёй душой служыць адраджэнню свайго народа, хоча для яго лепшай долі, свабаднейшага жыцця. У песнях Колас больш датыкае спраў грамадзянскіх».

*Сакавік.* У часопісе «Познание России» надрукаваны артыкул «Адраджэнне беларускай літаратуры», дзе побач з іншымі беларускімі пісьменнікамі даецца належная ацэнка і Я. Коласу. Зазначалася, што «беларускія паэты нагадваюць Шаўчэнку, песняра пакут украінскага народа», і ў сувязі з гэтым аўтар публікацыі параўноўваў паэму Шаўчэнкі «Перабендзя» і верш Я. Коласа «Пясняр».

*Красавік, май.* На волю трапляюць два лісты Я. Коласа (настаўніцы А. Зотавай), дзе Я. Колас, пішучы на рускай мове (гэтага патрабавала турэмная цэнзура), скардзіцца на цяжкія ўмовы для жыцця і творчасці: «свиданий не дают, передач не принимают, в тюрьме свирепствует тиф», «образовалось какое-то затхлое, стоячее болото», «валяешься, как животное, в грязи», «да и охота ли писать, когда чувствуешь, что над твоими письмами сидит цензор...» Коласавыя маркота, боль тут шчырыя і асабліва наракальныя: цяжка і пакутліва ў маладыя гады, калі ты поўны фізічных і творчых сіл, быць за кратамі па палітычных меркаваннях – гэта значыць, за свае сумленныя ўчынкі, накіраваныя дзеля роднага гаротнага народа.

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





*Ініцыятыва*

# «Наш Альгерд татараў біў...»

***Сёлета спаўняецца 645 гадоў з дня перамогі войскаў ВКЛ пад кіраўніцтвам вялікага князя Альгерда ў бітве на Сініх Водах, калі былі пераможаныя татарскія войскі і вызвалена Украіна. З гэтай нагоды прадстаўнікі грамадскасці распрацавалі шэраг мерапрыемстваў дзеля ўшанавання памяці той падзеі.***

Мастак і грамадскі дзеяч Мікола Купава паведаміў, што створаны грамадскі нацыянальны камітэт падрыхтоўкі святкаванняў пад старшынствам доктара гістарычных навук прафесара Анатоля Грыцкевіча. Урачыстасці пройдуць у верасні і снежні, плануецца ўключыць у іх дзіцячыя і маладзевыя мастацкія выстаўкі, навуковыя канферэнцыі, выстаўку твораў сяброў Беларускага саюза мастакоў, канцэрт і літаратурны фестываль.

«Аргкамітэт, – паведаміў М. Купава, – звярнуўся ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь і Мінскі гарвыканкам з прапановаю ўвекавечыць імя выдатнага палкаводца і кіраўніка старажытнай беларускай дзяржавы вялікага князя ВКЛ Альгерда ў назвах плошчаў, праспектаў і вуліцаў у Мінску, Віцебску і Навагрудку, іншых гарадах краіны, закласці ў сталіцы помнік Альгерду, перайменаваць Мінскую суvoраўскую вучэльню ў Мінскі кадэцкі корпус імя Альгерда».

Сумесна з грамадскім аб'яднаннем «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны» аргкамітэт абвяшчае аб правядзенні конкурсаў дзіцячай і моладзевай мастацкай творчасці, прысвечаных перамозе на Сініх Водах і аб арганізацыі выстаўкі (адкрыццё адбудзецца 11 верасня); запланаваныя таксама тэматычныя конкурсы па творах літаратуры, музыкі і выяўленчага мастацтва.

**Даведка.** *Вялікі князь Альгерд (1296 – май 1377). Сын Гедзіміна, ад бацькі атрымаў Крэўскае княства. Ажаніўся з віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай, у 1320 годзе стаў віцебскім князем. Паспяхова змагаўся з крыжакамі, аказваў дапамогу Пскову. Выдатна ведаў нямецкую мову, але з крыжацкімі пасламі заўсёды размаўляў праз перакладніка (дзяржаўнаю моваю ў ВКЛ была старабеларуская). У 1362 годзе разбіў войскі трох татарскіх ханаў на рацэ Сінія Воды – прытоку Паўднёвага Буга. Рэшткі ардынскай конніцы ўцякалі да самага Дуная. Гэта была першая буйная перамога над татарамі ва ўсёй Усходняй Еўропе. У выніку бітвы да ВКЛ было далучанае Падолле. За час княжання Альгерда тэрыторыя ВКЛ павялічылася болей чым у два разы. Гэта было выгодна для эканомікі і культуры беларускіх земляў, якія занялі цэнтральнае месца ў дзяржаве.*

***Паводле паведамленняў Інтэрнет***

# Вёска каля Краснай гары

***Вёска Крупейкі размешчана каля Краснай гары на правабярэжжы Дняпра за 5 кіламетраў на паўднёвы захад ад Лоева. Яна ўзнікла ў XVI ст. вакол вадзянога млына-крупарушкі, што быў пабудаваны на рачулцы, якая выцякала з Каўпенскага возера і ўпадала ў Дняпро. Менавіта ў тым стагоддзі на Беларусі з'явіліся першыя вадзяныя млыны. Праз гэтую мясцовасць уздоўж Дняпра праходзіў даўні Дняпроўскі або, як называлі яго крупейцы, Гутніцкі шлях, што вёў з Брагіна на Лоеў і далей на Рэчыцу.***

Як гаворыць паданне, спачатку тут узнік пост і будынак для жылля вартаўнікоў, а затым быў пабудаваны шынок для гандляроў. Зараз гэта частка вёскі носіць назву «Зашынкоўшчына». Пазней адзін прадпрымальны чалавек заснаваў каля Краснай гары на высокім беразе Дняпра гуту – прадпрыемства па вытворчасці шкла. Паступова гэтая мясцовасць пачала засяляцца сялянамі і працоўнымі людзьмі. На рачулцы-ручаіне быў пабудаваны вадзяны млын. Гаспадара празвалі Крупчыкам. Паданне сцвярджае, што ад яго і пайшло пашыранае мясцовае прозвішча Крупейчанка, а таксама назва вёскі. Дарэчы, гэта пацвярджаюць і рэшткі плаціны вадзянога млына ў цэнтры вёскі.

Але археалагічныя дадзеныя сведчаць, што людзі тут жылі яшчэ да ўзнікнення Крупеек. За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі ва ўрочышчы Гарадок, у бярозавым гаі, выяўлена гарадзішча ранняга жалезнага веку мілаградскай і зарубінецкай культур VII ст. да н.э. – V ст. н.э. Яно ўяўляе сабой пляцоўку 120x100 м, з боку поля ўмацаваную дугападобным валам вышынёй да 2 м. Гарадзішча ў 1936 г. абследаваў Л.Д. Каваленя, а ў 1956 і ў 1975 гг. – Л.Д. Побаль. Культурны пласт больш за 0,3 м. Была знойдзена ляпная кераміка.

Паводле пісьмовых крыніц, Крупейкі вядомы з канца XVIII ст. У 1795 г. у вёсцы налічваўся 51 двор і 292 жыхары. Яна адносілася да лоеўскага маёнтка графаў Юдзіцкіх Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства. Вяскоўцы займаліся земляробствам, рыбнай лоўляй, лясным і сплаўным промысламі. Сялянская абшчына ўвесь час адчувала недахоп зямлі, таму што землі лоеўскай абшчыны падыходзілі аж да самай вёскі. Гэта знайшло адлюстраванне ў забудове Крупеек: вузкія, крывыя вуліцы, малыя, нізкія хаціны, пакрытыя саломай, як звычайна, з трыма невялікімі акенцамі, цясніліся адна да адной.

У 1850 г. у Крупейках налічвалася ўжо 96 двароў, 1 517 жыхароў. На паўднёвым захадзе ад вёскі з даўніх часоў існавала крынічка са святой вадой і капліца, якая была пабудавана ў гонар святой Вялікамучаніцы Параскевы. Існуе мясцовае паданне, што каля крынічкі некалі тройчы явілася на сасне ікона святой Параскевы. Гэта паслужыла падставай для будаўніцтва вернікамі на тым месцы капліцы. У XIX ст. каля крыніцы са святой вадой штогод на Дзесятуху (дзесяты тыдзень пасля Вялікадня) адбываліся набажэнствы, гулянні і двухдзённы, па пятніцах і суботах, кірмаш. Вядома, што ў 1863 г. на кірмаш было прывезена тавараў на суму 3 200 рублёў, прададзена – на 1 550, у 1864 г. адпаведна на 3 600 і 2 000 рублёў. На Дзесятуху да капліцы прыходзілі многія паломнікі з Украіны, Расіі і іншых мясцінаў. Мясцовы прадпрымальнік Волкаў стварыў тут розныя дзіцячыя атракцыёны.

У 1862 г. Крупейская сельская абшчына налічвала 93 сялян-гаспадароў і 8 агароднікаў, якім належала 1 291 дзесяціна зямлі, у тым ліку 40 было пад агародамі. У сакавіку 1865 г. 102 двары сялян (97 гаспадароў і 5 агароднікаў) Крупейскай сельскай абшчыны былі пераведзены на выкуп. Тады ў вёсцы пражывала 260 рэвізскіх душ, якім належала 50 дзесяцін 1 200 сажняў зямлі пад агародамі, 1 042 дзесяціны 1 200 сажняў ворнай зямлі, 198 дзесяцін сенажацяў. Выкупныя плацяжы былі вызначаны па 48 капеек за дзесяціну для гаспадароў і 54 капейкі для агароднікаў, што з улікам капіталізацыі пад 6 % гадавых складала 6 412 рублёў 70 $^{3}/_{4}$ капейкі за ўвесь абшчынны надзел, які быў роўны 1 430 дзесяцінам 1 289 сажням зямлі.

У 1867 г. у Крупейках працавала аддзяленне Лоеўскага вучылішча, у якім навучалася 18 хлопчыкаў. Настаўнікам тады працаваў селянін Панцеляймон Хмель. У 1872 г. каля капліцы ў Крупейках была пабудавана драўляная царква, перавезеная з Ручаёўкі. Храм адносіўся да прыхода Свята-Троіцкага сабора, што існаваў у Лоеве.

У 1886 г. Крупейкі ўваходзілі ў склад Лоеўскай воласці Рэчыцкага павета Мінскай губерні. У вёсцы налічвалася 120 двароў, 750 жыхароў, 3 ветракі. Паводле перапісу 1899 г., у Крупейках налічвалася ўжо 194 двары, 1 161 жыхар, царкоўна-прыходская школа, хлебазапасны магазін.

Падчас сталыпінскай аграрнай рэформы сялянская абшчына ў Крупейках была скасавана. Многія сяляне на пачатку XX стагоддзя пачалі купляць зямлю і высяляцца ва ўрочышча Пустая града, дзе ўзніклі шматлікія хутары, а пазней і вёска Пустая града. У 1908 г. у Крупейках налічвалася 273 двары і 1 542 жыхары, дзейнічала царкоўна-прыходская школа (43 вучні). Настаўнікам працаваў Максім Ерафееў. Затым – Восіп Паўлавіч Бойка. Калі ж яго забралі на службу ў армію, – Марыя Іванаўна Лойка. 11 ліпеня 1909 г. у вёсцы адбыўся вялікі пажар, пад час якога згарэла каля 100 хат. Пасля пажару жыхары вёскі сталі сяліцца бліжэй да лесу.

Савецкая ўлада ў Крупейках усталявалася ў лістападзе 1917 г., калі быў створаны рабоча-сялянскі камітэт, які ўзначаліў Іван Верамеенка. У 1922 г. Крупейская школа размяшчалася ў адным пакоі, дзе займалася 80 вучняў. Загадчыцай працавала Брузгалава. У 1923 г. у вёсцы налічвалася ўжо 315 двароў і 1 684 жыхары. У гэтым жа годзе позна вечарам невядомымі быў забіты старшыня вясковага камітэта сялянскай узаемадапамогі Пётр Крамар, якога пахавалі ў Лоеве ў парку над Дняпром.



*Мемарыяльны знак на Краснай гары. У гэтым месцы Чырвоная Армія прарвала фашысцкі «ўсходні вал» і стварыла Лоеўскі плацдарм для далейшага выгнання ворага з беларускай зямлі*

Паводле перапісу 1926 г., у Крупейках дзейнічалі воўначасальня, кузня, вятрак. Сярод жыхароў пераважалі прозвішчы Карась, Крамар, Кравец, Крупейчанка і Лысянок. У снежні 1926 г. вёска Крупейкі стала цэнтрам сельсавета Лоеўскага раёна. Старшынёй сельсавета стаў І.Я. Верамеенка.

У 1927 г. дзейнічала Крупейская школа 1-й ступені, у якой налічвалася 94 вучні і працавалі два настаўнікі. Загадчыкам была М.Н. Грамыка. У 1929 г. у Крупейках пражывала ўжо 1 777 жыхароў і былі калектывізаваны першыя 12 бядняцкіх гаспадарак. Першым старшынёй створанага калгаса імя Сталіна стаў Андрэй Міхайлавіч Карась. У 1930 г. у калгасе ўжо налічвалася 84 гаспадаркі, працавалі 2 ветракі і кузня. Калектывізацыя суправаджалася рэпрэсіямі супраць сялянства. Былі арыштаваны і высланы за межы Беларусі Р.М. Казлянок, сем'і А.Ф. Карася, Л.А. Коўзіка, П.А. Коўзіка, С.П. Краўчанкі, Е.Д. Прымака, У.М. Прымака, У.Ф. Літошанкі. Акрамя гэтага, у 1929–1930 гг. 12 гаспадарак былі абкладзены кабальным індывідуальным сельгаспадаткам. У выніку да 1938 г. калектывізацыя ў Крупейках была завершана, у вёсцы была адкрыта 7-гадовая школа, дырэктарам у якой працаваў В.Г. Пятровіч, а завучам М.В. Сазановіч.

Перад Вялікай Айчыннай вайной у Крупейках было 415 гаспадарак і 1 132 жыхары. 27 жніўня 1941 г. вёска была акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Ужо на пачатку вайны былі расстраляны фашыстамі жыхары Крупеек: І.Я. Верамеенка, М.І. Верабей, Д. Карась, П.Ф. Крупейчанка.

16 кастрычніка 1943 г. вёска Крупейкі была вызвалена воінамі 193-й і 149-й дывізій 65-й арміі генерала П.І. Батава. Пад час баёў было спалена 335 двароў і загінула 7 жыхароў вёскі. Зараз у цэнтры Крупеек знаходзіцца брацкая магіла 150 савецкіх воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі. Сярод пахаваных – Героі Савецкага Саюза Б.Ф. Баннікаў, А.І. Бруханаў, У.Ф. Латышаў, Р.П. Мясаедаў, М.Ф. Смірноў. На магіле ў 1973 г. устаноўлена скульптура воіна з аўтаматам. Паблізу вёскі, на вяршыні Краснай гары на беразе Дняпра, устаноўлены мемарыяльны знак (вялікі валун) у памяць аб фарсіраванні ракі ў кастрычніку 1943 г. савецкімі войскамі. Пад час вайны на франтах і ў партызанскіх атрадах загінула 216 крупейцаў.

Ужо ў лістападзе 1943 г. быў адноўлены калгас імя Сталіна. Тады ў Крупейках налічвалася 50 ацалелых хат, большасць насельніцтва жыло ў зямлянках. Да 1949 г. Крупейкі былі адбудаваныя.

У чэрвені 1950 г. калгас імя Сталіна быў узбуйнены шляхам далучэння да яго вёсак Каўпень, Пустая града і Шчытцы, цэнтрам калгаса засталася вёска Крупейкі. Старшынёй працаваў Рыгор Рабус.

У 1954 г. Крупейскі сельскі Савет быў скасаваны, яго тэрыторыя ўвайшла ў склад Казярожскага сельсавета.

У сакавіку 1959 г. быў ліквідаваны калгас імя Сталіна, вёска Крупейкі ўвайшла ў склад створанага саўгаса «Лоеўскі». У 1962 г. Крупейская 7-годка была пераўтворана ў 8-годку.

Пад час перапісу насельніцтва 1999 г., у вёсцы Крупейкі Каўпенскага сельсавета налічвалася 273 гаспадаркі, 593 жыхары, з іх 258 мужчын і 335 жанчын. Тут працавала базавая школа, дзіцячы сад, фельчарска-акушэрскі пункт, аддзяленне сувязі, магазін, лясніцтва.

У 2004 г. саўгас «Лоеўскі» быў ліквідаваны, а яго землі і матэрыяльна-тэхнічныя каштоўнасці перададзены ААТ «Лоеўаграпрамсэрвіс».

***Мікалай АНІСАВЕЦ***





# Пра нашага земляка Яўсея Майсеенку

***Кніжачка гэтая, як і яшчэ ладны стосік публіцыстыкі, крытыкі Дзмітрыя Хрэнкова ў маёй хатняй бібліятэцы з даўняга, ашхабадскага, часу. Ён часта пісаў пра рускага паэта Мікалая Ціханава. А мяне цікавіла повязь Ціханава з Туркменіяй. Вось вышукваў патрэбную інфармацыю. А пасля зацікавіўся Хрэнковым увогуле... У кнізе ж «Дзень за днём. Лірычны дзённік крытыка» (Ленінград, «Советский писатель», 1984) знайшоў «беларускі» нарыс літаратара. «Рукі просяць работы» – пра Яўсея Майсеенку – вялікага майстра выяўленчага мастацтва, які нарадзіўся ў мястэчку Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёна ў 1916 годзе. Народны мастак СССР. Лаўрэат Ленінскай прэміі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР. Глыба ў гісторыі савецкага жывапісу!.. І глыба ў гісторыі культурнага жыцця Ленінграда, цяпер – Санкт-Пецярбурга.***

Але ж вернемся да нарыса. Відавочна, што з'явіўся ён пасля выставы Яўсея Майсеенкі ў Ленінградзе ў 1983 годзе. Так і напісана на самым пачатку: «Хутка ляціць час. Здаецца, мы не паспелі азірнуцца, а свята, што гаспадарыла ў Рускім музеі, ужо наблізілася да завяршэння. Свята прынесла нам выстава работ выдатнага ленінградскага мастака Яўсея Майсеенкі 1983 года». Дык, можа быць, гэта звычайная рэцэнзія? Не, усё ж нарыс. Пісьменнік не толькі разглядае, аналізуе карціны, ён ідзе далей, стварае партрэт мастака. Робіць выразную спробу прасачыць паяднанасць мастака з яго героямі, імкнецца разгледзець, што ж падштурхнула жывапісца да выбару таго ці іншага сюжэта. А яшчэ ў фарбах Яўсея Майсеенкі літаратар вышуквае галоўнае, сутнаснае... «Не сюжэт заварожвае нас, а характар людзей, іх філасофія...»

Дзмітрыя Хрэнкова захапіла і вернасць мастака героіка-патрыятычнай тэме, адлюстраванне падзей Вялікай Айчыннай (так, энцыклапедыі сёння сухенька патлумачваюць: «Найболей значныя работы прысвечаны грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнам: "Чырвоныя прыйшлі" (1961), "Таварышы" (1964), "Чарэшня", "Камісар" (абедзьве 1969), "Перамога" (1972)...»). Але ж не толькі таму цікавасць узнікла. Чытаем у нарысе ленінградскага пісьменніка: «Палотнішчы Яўсея Майсеенкі можна параўнаць з кнігамі – настолькі змястоўныя яны. І раз, і другі, і трэці падыйдзеш да іх, абавязкова "прачытаеш" тое, што пры першым знаёмстве падалося не разгледжаным. Па карцінах можна расказваць біяграфіі, прадказваць лёсы. Так мастак, не паўтараючы пісьменніка, як быццам ідзе поплеч з ім: кожны з іх сваімі сродкамі пашырае ўяўленне пра шматаблічча свету, пра чалавека, яго ідэі, задумы, здабыткі».

...Вядома, што напрыканцы 1970-х гадоў Яўсей Майсеенка стварыў цэлы шэраг работ, якія прысвечаны Беларусі, роднай Гомельшчыне. Відаць, яны былі на выставе 1983 года, і па іх ленінградскі пісьменнік Дзмітрый Хрэнкоў асэнсоўваў светабачанне мастака, велічыню яго таленту.

Уваравічы – радзіма мастака, дзе памяць пра Яўсея Майсеенку шануюць, зберагаюць. Дарэчы, як будзе створаны музей у гонар творцы, мажліва, там знойдзецца месца і ўспамінам маладзейшых мастакоў. Шмат хто з сяброў Беларускага саюза мастакоў вучыўся ў Ленінградскім інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І.Я. Рэпіна. Сярод іх – азербайджанец Каміль Камал. Яго добра ведаюць у Мінску. Не раз ладзіліся ягоныя выставы. Размаўляем з Камалам у яго невялікай, але сімпатычнай майстэрні.

– Чым запомніўся Майсеенка? – перапытвае Каміль Камал. – Я працую зусім у іншай манеры, чым мой ленінградскі настаўнік. І ўсё ж многае з яго ўрокаў памятаецца. Неназойліва, нешматслоўна ён пераконваў нас у тым, што за кожнай карцінай павінна быць думка. Палотнішча цікавае, канечне ж, не сюжэтам, ці на крайні выпадак, далёка не ім адным...

***Шмат разоў я перачытваў нарыс Дзмітрыя Хрэнкова. Цікава: іншая выстава Яўсея Майсеенкі, якая прайшла ў 1982 годзе, таксама захапіла аднаго пісьменніка. Са сваімі развагамі пра творчасць мастака ў «Литературной газете» 5 мая 1982 года выступіў вядомы рускі пісьменнік Фёдар Абрамаў. Яго артыкул «Мощь и дерзость» увайшоў у кнігу «Чым жывём-кормімся» (Ленінград, «Советский писатель», 1986). Там ёсць і такія словы: «...Яўсей Майсеенка выкладваецца напоўніцу. Затое і палотнішчы яго, заўсёды, да апошняй мяжы насычаныя колерам, сучаснымі рытмамі, унутранай энергіяй, захапляюць гледача, як быццам абпраменьваюць яго. Але гэта абпраменьванне энергіяй жыццелюбівай, жыватворнай, якая нараджае ў нас жаданне працаваць, жыць».***

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

# «Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі»

Гэтае вызначэнне – менавіта такая назва кнігі, што нядаўна выдадзена намаганнямі культурна-асветніцкага таварыства «Спадчына», якім кіруе літаратар, збіральнік і прапагандыст мастацтва Анатоль Белы, і прысвечаная 85-годдзю з дня нараджэння Міколы Ермаловіча. У прадмове слушна падкрэсліваецца, што апошнія два дзесяцігоддзі той стаў шырока вядомы як даследчык нашай даўніны – старажытнай Беларусі і першых стагоддзяў Вялікага княства Літоўскага, вылучыўшы і дакументальнымі фактамі даказаўшы сваю нацыянальную гістарычна-дзяржаўную канцэпцыю.

Названая кніга даволі аб'ёмістая, у ёй 360 старонак тэксту фармату А-5. На пачатку яе складальнікі А. Белы, А. Валахановіч і Н. Сармант, апроч сваіх, уключылі шэраг успамінаў і тых, хто таксама добра ведаў Ермаловіча-чалавека і даследчыка (Г. Штыхаў, А. Грыцкевіч, М. Аўрамчык, В. Іпатава, Г. Далідовіч і інш.), якія пастараліся расказаць чытачу малавядомыя дэталі. У другім раздзеле – асобныя лісты Міколы Іванавіча да гісторыка М. Улашчыка і іншых даследчыкаў, а таксама тэксты запісаў ягоных выступленняў на пасяджэннях клуба «Спадчына». Трэці раздзел знаёміць з тым, у чым, бадай, найменш дасведчаны наш чытач: з жанрам гутарак, традыцыі якіх намагаўся ажывіць Мікола Ермаловіч. Як нядаўна стала вядома, ён у няпростую першую палову 1960-х гадоў выпускаў нелегальны рукапісны альманах «Падснежнік», а ў сярэдзіне 1970-х – «Гутаркі», дзе і змяшчаў свае творы. Ужо самі загалоўкі ягоных гутарак («Быкоўскі на пасадзе», «Навошта свінні рогі?», «Мова – сцяг народа», «Рагвалод і Рагнеда», «Кастусь Каліноўскі», «Нацыянальныя інтарэсы вышэй за ўсё», «Раней пан, цяпер план», «Табе патрэбна воля» і інш.) сведчаць пра шырокі абсяг аўтаравых грамадзянскіх памкненняў і смелую, нават мужную на той час пазіцыю. У чацвёртым раздзеле змешчаны сшытак вершаў М. Ермаловіча, што значна дапаўняе яго творчае аблічча, а многія вершы яскрава ўзвышаюць ягоную постаць і сведчаць, што М. Ермаловіч у часы таталітарызму зусім не прыстасоўваўся да яго, а пісаў тое, што было на душы і сэрцы.




*Фрагмент паштоўкі, выдадзенай М. Казлоўскім (г. Маладзечна), з малюнкам Рыгора Мяжуева*

Нядаўна на прэзентацыі кнігі (а ў ёй шмат фотаздымкаў, ілюстрацый, ёсць даведка пра аўтараў) у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі ёй была дадзена высокая ацэнка. Выступоўцы падкрэслівалі, што таксама неабходна пачатую клубам «Спадчына» справу прадоўжыць – у прыватнасці, сабраць і выдаць шматлікія рэцэнзіі, публіцыстычныя артыкулы Міколы Ермаловіча, што яшчэ больш выявіць разнастайныя бакі яго плённай творчасці.

*Ул. інф.*

## Гутарка пра мову і каўбасу

Днямі стаю я ў чарзе і чую:

– Гэта ж столькі Беларусь дае мяса, а тут трэба выстойваць няма ведама колькі часу за нейкай нішчымнай каўбасой.

Сказанае мяне не здзівіла. Такое я ўжо неаднойчы чуў, стоячы ў даўжэзных чэргах. Здзівіла тое, хто гэта гаварыў. Голас мне здаўся знаёмым. І я, не верачы сабе, падумаў: «Няўжо Яўхім Крывенька?» Гэта мой даўні знаёмы. Праўда, я яго ўжо даўно не бачыў, гадоў з пяць. Ён недзе пераехаў жыць у другі канец горада.

Запомніўся ён мне найбольш тым, што спаткаўшыся са мною, заўсёды ўшчуваў мяне за маю беларускасць:

– А вы ўсё гаворыце па-беларуску. Кіньце вы гэту сваю мову. Вунь другія ўжо даўно яе выракліся і жывуць лепш за вас. З ёю нікуды не выб'ешся, з ёю не прадасі і не купіш. Дык навошта яна патрэбна? Ну, хоць бы майму сыну? Ён без яе вышэйшае абразаванне атрымае. Вось убачыце, што скора на ёй ніхто гаварыць не будзе, хіба толькі вы адзін. І правільна робіць Беларусь, што ад сваёй мовы адракаецца. Без яе можна абыйсціся. Затое ў нас каўбасы шмат, нідзе столькі няма, як у Беларусі. Вунь у Расіі пуста, як вымецена. Там ніякай каўбасы няма, а ў нас якой хочаш...

Я з Яўхімам Крывенькам не спрачаўся, бо хіба такога ў чым пераканаеш? І вось раптам я чую такія словы. А можа гэта не ён? Не, ён. Я яго адразу пазнаў, угледзеўшыся ў чаргу, хоць ён і намнога пастарэў. Падыйшоў да яго. Ён таксама мяне адразу пазнаў.

– Што, па каўбасу стаім? – пытаюся.

Яўхім Крывенька адчуваў ніякавата перада мною, відаць, успомніў усё тое, што гаварыў некалі мне.

– Ды вось жа прыходзіцца стаяць.

– А як сын? Паступіў куды-небудзь?

– Ого, паступіш тут у Беларусі, калі сюды з усяго Савецкага Саюза з'язджаюцца. Ведама ж, няма экзамена па беларускай мове. Няхай яны вось паспрабуюць паступіць у Літве.

Вось як! Нават і да Яўхіма Крывенькі дайшло, для чаго існуе родная мова, што аддаўшы яе, аддасі і ўсё астатняе, не атрымаўшы нічога ўзамен, апроч хіба нішчымнай каўбасы.

*Толькі гутарка ходзіць такая...*
*Я. Купала*

## Гэта пры нас...

*Гэта пры нас Беларусь забівалі,*
*Гэта пры нас ёй магілу капалі,*
*Ды аб ратунку яе мы не дбалі,*
*Мы яе ворагу самі аддалі.*
*Многія з нас нават катамі сталі,*
*Разам з прыблудамі білі, таптаці,*
*Гналі яе, ёй у вочы плявалі.*
*Мы ж гэта шчасцем яе называлі,*
*Будучнасць слаўную ёй прадракалі*
*І пераможныя гімны складалі.*
*Гэта пры нас Беларусь забівалі,*
*Гэта пры нас ёй магілу капалі,*
*Толькі адны мы у гэтым віноўны,*
*Толькі адным нам і мераю поўнай*
*Вечнай агіды адмерана будзе,*
*Бо не падставілі мы свае грудзі,*
*Каб засланіць імі маці-Радзіму.*
*Гэта бо толькі і ёсць тым адзіным,*
*Чым здабываюць жыццё і свабоду,*
*Гонар і славу Айчыне й народу.*
*Гэта пры нас Беларусь забівалі,*
*Гэта пры нас ёй магілу капалі.*

## Дзе ж?

*Ёсць Беларусь, што вечна гнецца,*
*Пакорна церпячы прыгон,*
*Што вечна плача і трасецца*
*І зносіць вечны свой палон.*

*Ёсць Беларусь, што прадаецца*
*І верна служыць чужакам.*
*З свайго ж звыродліва смяецца*
*І моліцца чужым багам.*

*Дзе ж Беларусь, што к волі рвецца,*
*Што не згубіўшы гонар свой,*
*Быць гаспадыняю імкнецца*
*Над сваёй доляй і зямлёй?*

## Я ўсёй душой з народам Беларусі

*Я ўсёй душой з народам Беларусі,*
*А ён нявер'ем злосным плаціць мне.*
*Я з родным словам да яго звярнуўся,*
*А ён глядзіць з насмешкай на мяне.*

*Чаму ж чужыя, як свае, для Беларусі?*
*А я, нібы чужы, у роднай старане.*
*Ніколі я Радзімы не зракуся,*
*Чаму ж яна зракаецца мяне?*

*Відаць, народ мой больш прывык да здрады,*
*Чым да аддансці сваіх сыноў,*
*Таму шануе ён чужацкіх гадаў*
*Больш, чым сваіх звыродных груганоў.*

*1948–1983*

*Мікола ЕРМАЛОВІЧ*

## Чэрвень

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва** (Мінск, 1997) – 10 гадоў з часу заснавання (адкрыты 18.05.1998).

**2 – Майхровіч Альфрэд Сцяпанавіч** (1937, Мінск – 2004), вучоны ў галіне гісторыка-філасофскай навукі, член-карэспандэнт НАН Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984) – 70 гадоў з дня нараджэння.

**5 – Клічаўскі краязнаўчы музей** (1967) – 40 гадоў з часу заснавання (адкрыты 10.06.1969).

**11 – Жырмунскі Аляксандр Мацвеевіч** (1887–1970), вучоны-геолаг, член-карэспандэнт НАН Беларусі – 120 гадоў з дня нараджэння.

**11 – Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя. К. Крапівы НАН Беларусі** (Мінск, 1957) – 50 гадоў з часу заснавання.

**14 – Доўнар-Запольскі Мітрафан Віктаравіч** (1867, Рэчыца – 1934), гісторык, этнограф, фалькларыст, літаратуразнавец, эканаміст, адзін з заснавальнікаў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі – 140 гадоў з дня нараджэння.



*Шмат сем'яў народных майстроў жыве на Жыткавіччыне. Сярод іх – майстры саломапляцення маці і дачка (яна на здымку) Ярмолічы*

*Фота Леаніда БАРОЎСКАГА*

## Крыжаванка «Наднямонне. Беларускі "Парнас"»



*Уздоўж*

**1**. Вядомы беларускі пісьменнік XIX ст., аўтар рамана «Іван Выжыгін» і інш. Ураджэнец Уздзеншчыны. **8**. Літаратурнае аб'яднанне 1920–1930-х гг., віцебскую філію якога ўзначальваў пісьменнік Я. Мазуркевіч, ураджэнец Уздзеншчыны. **9**. «У ...» Верш Я. Купалы, напісаны ў 1918 г. **11**. Родная вёска пісьменнікаў К. Крапівы, Л. Арабей, П. Труса, акцёра А. Труса. Тут жылі расійскія мастакі, браты С. і А. Ткачовы. **12**. Вёска, радзіма бацькі Я. Купалы – Дамініка Луцэвіча. Тут нарадзіўся і беларускі пісьменнік А. Махнач. **15**. Паэт, драматург. Аўтар паэм «Каршун», «Загай». Я. Купалу прысвяціў верш «Слава» (1956 г.) і інш. **18**. Назва р. Нёман у старажытнасці, што сустракаецца ў кнізе У. Сыракомлі «Нёман ад вытокаў да вусця». **19**. Верш Я. Купалы (1910 г.). **20**. Вядомы ўрач-стаматолаг, хірург, прафесар, ураджэнец в. Касцяшы. **21**. Выдатны, агульнапрызнаны дзеяч літаратуры, мастацтва і інш. **24**. Вёска на Уздзеншчыне, дзе нарадзіўся выдатны вучоны-гісторык, прадстаўнік рэлігійна-культурнага рэнесансу У. Завітневіч. **26**. Паэт, пісьменнік, акадэмік НАН Беларусі, грамадскі дзеяч. Ураджэнец в. Вялікая Уса. **27**. Першы верш Я. Купалы, напісаны ў Мінску ў 1919 г. **31**. Вядомы беларускі пісьменнік, аўтар раманаў «Заходнікі», «Гаспадар-камень», апавядання «Сустрэча», у якім апісваецца першая сустрэча Я. Купалы і Я. Коласа ў 1912 г. у Смольні. **33**. Імя роднай сястры Я. Коласа. **34**. Паслядоўнік Ф. Скарыны ў справе кнігадрукавання, асветнік XVI ст. Заснаваў у г. Нясвіжы друкарню, ва Уздзе і в. Кухцічы працаваў над перакладам Бібліі на беларускую мову. **36**. Старажытная вёска на Уздзеншчыне, радзіма братоў-вучоных гісторыка Л. Лыча, эканаміста Г. Лыча, эколага А. Лыча; географа А. Шкляра, гісторыка М. Шкляра.

*Упоперак*

**1**. Вёска на Уздзеншчыне, радзіма пісьменнікаў А. Якімовіча і В. Шырко. **2**. «... і п'яўкі» Байка Я. Купалы (1909 г.). **3**. Даўней вялікая дарожная карэта. **4**. «Бот і ...» Сатырычны верш Я. Купалы. **5**. Верш Я. Купалы (1906 г.). **6**. Вёска ў Капыльскім раёне, на беразе Нёмана. Радзіма вядомага паэта-музыканта А. Русака, паэта А. Астрэйкі. **10**. Ляжыць паленца, а ў сярэдзіне сэрца (заг.). **13**. Беларускі паэт, аўтар паэмы «Ракіль», ураджэнец в. Мрочкі Уздзенскага раёна. **14**. Вёска на Уздзеншчыне, радзіма беларускага празаіка А. Пальчэўскага. **16**. Адзін з псеўданімаў Я. Коласа, пад якім ён друкаваўся ў «Нашай Ніве». **17**. Вёска на Уздзеншчыне, радзіма паэта А. Бялевіча і вучонага-геолага А. Махнача. **22**. Старэйшая на Беларусі газета, якой сёлета спаўняецца 90 гадоў. **23**. Камень-..., або «святы камень», на якім ёсць адбітак быццам бы чалавечай нагі. **25**. Назва прадстаўнікоў усходнеславянскіх народаў, ваяры якіх у 1284 г. сумесна з рускімі і татарскімі палкамі выступілі ў паход супраць ВКЛ і атрымалі паразу ў бітве пад Магільна. **28**. Вясельны чын з бліжэйшай світы жаніха. Іншыя назвы – шафер, дружок. **29**. Апавяданне Я. Коласа, надрукаванае пад псеўданімам Дзядзька Карусь (1907 г.). **30**. Месца, адкуль бярэ пачатак Нёман. **32**. Верш Я. Купалы (1918 г.).

*Склаў*
***Лявон ЦЕЛЕШ,***
*г. Дзяржынск*

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ГАЛАШЭННІ** – жанр сямейна-абрадавай паэзіі, від лірыка-драматычнай песенна-рэчытатыўнай імправізацыі, якая выконвалася ў сувязі са смерцю блізкага чалавека або іншымі трагічнымі падзеямі ў сям'і альбо ў гаспадарцы. Яны, галашэнні, ужываліся ў побыце ўсіх народаў свету, асабліва пры развітанні – пахаванні. Чалавека адпявалі за ягоныя зямныя ўчынкі (часамі даруючы і іхнія грахі), а таксама жадалі яму шчаслівага жыцця на «тым» свеце. У галашэннях, само па сабе зразумела, выказваўся смутак з прычыны страты чалавека, выказвалася імкненне помніць і шанаваць усе ягоныя добрыя зямныя справы. Асабліва прачуленасць выказвалася з адыходам з зямнога жыцця маці – унучкі, дачкі, жонкі, сястры, бабулі. Калі, на думку знаёмых, быў добры чалавек, гаспадар, муж, бацька, дзед, то яму таксама аддавалася належная пачцівасць. Ім абоім, г.зн. Ёй і Яму – захавальнікам і працягу роду чалавечага – прысвячаліся самыя прачулыя словы («А мая матулечка, нашто нас пакінула, сіротачак?», «А мой раднюсенькі, а мой мілюсенькі?»).

У галашэннях народнай мудрасцю выпрацавалася сістэма аддаць належнае ўсім узростам памерлых зямных насельнікаў – ад немаўляці да зусім старога чалавека. У іх маглі падкрэслівацца разгорнутыя карціны нялёгкага жыцця як нябожчыка, так і яшчэ жывых (напрыклад, бедных сялян) пры адыходзе з жыцця чалавека, на пахаванні і на памінках. У асноўным галашэнні выконвалі жанчыны, сярод якіх абавязкова былі таленавітыя на голас. Ім і без папярэдняй дамовы за гэта маглі плаціць грашыма альбо прадуктамі.

Народныя звычаі аплаквання («галасіць», «выць», «кукаваць») знайшлі адбітак яшчэ ў «Аповесці мінулых гадоў». У беларускай літаратуры іх (рэкруцкія альбо побытавыя) адлюстроўвалі В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я. Купала, Я. Колас, М. Гарэцкі, М. Багдановіч, І. Мележ і інш.



*Фрагмент галерэі гаспадарчай пабудовы ў Заходняй Беларусі (XIX ст.)*

**ГАЛЕРЭЯ** – а) доўгая накрытая светлая будыніна, дзе пераважна адну вонкавую падоўжаную сцяну замяняе *каланада* (рад калон пад агульным перакрыццём), часам з *аркадай* (рад аднолькавых арак, што апіраюцца на калоны) і *балюстрадай* (парэнчы з фігурнымі слупкамі на лесвіцах, тэрасах, балконах). На Беларусі галерэі вядомыя з XVI ст. у ратушах, палацах, гандлёвых радах Нясвіжа, Навагрудка, у Рагачоўскім палацы і інш. Ужываліся як у мураваным, так і драўляным дойлідстве ў класічным, а таксама і ў мясцовым мастацкім вырашэнні; б) галерэямі называліся і зальныя памяшканні ў палацах, часам з суцэльным радам акон. З XVI ст. у Заходняй Еўропе, у XVII–XIX стст. на Беларусі ў іх размяшчаліся мастацкія калекцыі карцін (Гомель, Нясвіж, в. Шчорсы Навагрудскага раёна, Лагойск і інш.); в) таксама калідор з суцэльнымі аконнымі праёмамі на адным з падоўжных бакоў будынка (у манастырах і кляштарах, у школьных будынках); в) верхні ярус глядзельнай залы (галёрка).

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 334 61 62.
Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 31.05.2007.
Газета надрукавана ўдрукарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 648.
Тыраж 1380 асобнікаў.